# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 30 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год II. Вільня. Пятніца, 27-га студня 1922 г. № 3 (28).

## Зрабілася хмурней.

Да вясны яшчэ ня надта блізка, а цёмная хмара прасьледаваньняў і арыштаў выпаўзла зьнекуль на сярэднялітоўскі палітычны небасхіл тыдзень таму назад і праз вельмі асьведамленую агентуру WAP з хмары гэтае на галовы арыштованых уночы з 19 на 20 гэтага студня беларускіх і літоўскіх дзеячоў ужо ўпалі першыя каплі дажджу сур'ёзных абвінавачаньняў.

„З вялікай хмары — маленькі дождж“,—кажа прыказка.

Так і тут можа быць, пасьля ўсяе нябывалае ніколі ў Вільні буры вобыскаў.

Што толькі ні ставіцца ў віну арыштованым?

Тут і памятнае кожнаму быўшаму „россійскому подданному“ (а ў тым ліку і дзе-каму з палякоў)—„стремленіе к ниспроверженію существующаго строя“ і шпіёнства й супрацоўніцтва з ваеннаю разьведкаю чужаземных дзяржаваў, і удзел у арганізованнай акцыі, меўшай мэтаю выклікаць неспакой у краі, і... бальшавіцкая пропаганда і, нарэшце, раздуваньне нацыянальнай барацьбы.

Яно відочна, што гэтае апошняе абвінавачаньне ў вядзеньні нацыянальнае барацьбы можна бяз ніякіх трудоў прыстасаваць амаль да кожнага жыхара маладзенькае дзяржавы—Сярэдняе Літвы, бо даказаваць адсутнасьць нацыянальнай барацьбы ў гэтай дзяржаве такжа сьмешна, як даказаваць быццам у Амэрыцы саўсім ня бывае ночы й ніколі не заходзіць сонца.

А ўрэшце, кожнае абвінавачаньне патрабуе доказаў і мы спакойна гатовы чакаць хуткага апублікаваньня тых важкіх даных, якія павінны мець сьледчыя ўлады дзеля гэткіх цяжкіх абвінавачаньняў.

Для беларускага грамадзянства гвалтоўнае вырываньне некаторых сяброў з моцнае нацыянальнае дружыны і саджаньне іх у вастрог — рэч зусім ня новая, хаця на гэты раз можа крыху й замоцная.

Арышт рэдактара аднае беларускае газэты, адміністратара другой, арышт рэжысэра драматычнага гуртка, а то і проста выпадкова заначаваўшых у Школьнай Беларускай Радзе вучыцялёў ды вучыцелек разам з усімі іншымі арыштамі для вшэхпольскай тутэйшай вокладкі газэты „Rzeczpospolita“ ўжо нішто іншае, як „wykrycie organizacji szpiegowskiej“.

Для нас гэта яшчэ так моцна ня зьвініць.

Для нас, як і для кожнага здаровага мазгамі чалавека ясна, што над правам нашым на вольнае нацыянальнае жыцьцё домінуе сіла і нам вядома навет старадаўняя, ня наша зусім, прыказка: „Дзе гаворыць зброя, там законы маўчаць“.

Сілаю зброі утвораная Сярэдняя Літва — гэта часовая перамога польскага элемэнту краю, але разам з тым гэта і пэўная слабасьць гэтага элемэнту, які іншых, немілітарных аргумэнтаў свайго права на панаваньне над зямлёю, відочна няпольскаю, высунуць ня можа.

Спосаб выяўленьня волі насяленьня праз куртатыя выбары ў аднабокі Сойм таксама мусі ня зусім пэўны, калі напярэдадні скліканьня зусім „свайго“ Сойму сыплюцца нячуваныя старою Вільняю рэпрэсіі на прадстаўнікоў тых падняволеных нацыянальнасьцяў краю, якія ад паліваньня вады на чужы млын ухіліліся.

Нацыянальная барацьба паглыбела й завастрылася.

На сярэднялітоўскім, ніколі ясным нябыўшым, палітычным небасхіле зрабілася яшчэ хмурней і ў хмарах панаваньня дужэйшых над слабейшымі патанулі ўсе нядаўнія рыцарскія лёзунгі паноў палажэньня аб волі й роўнасьці.

Шляхоцкага і шляхетнага клічу „вольныя з вольнымі — роўныя з роўнымі“, як быццам ніколі й ня было.

Аднача сныя вобыскі й арышты па ўсім беларускім фронце назаўсёды вырвуць з душы беларускага грамадзянства апошняе каліва веры ў тое, быццам паны сучаснага палажэньня, самі нядаўна яшчэ выйшаўшыя з нацыянальнай няволі, чымнібудзь розьняцца ад вышкаленых быўшых прыгнятальнікаў, трымаўшых у няволі й вялізную часьць Польшчы і ўсю Беларусь.

Зьменена толькі дэкорацыя, крыху йначай выглядае сцэна, але як-бы зусім той самы рэпэртуар.

Шуканьне зброі, нелегальнай корэспондэнцыі й літэратуры ў... Беларускай Кнігарні, аблога Беларускай Гімназіі й затрыманьне ў ёй некалькіх сот школьнікаў, ведаўшых аб арышце іх вучыцялёў і обыску ў Дырэктара—ўсё гэта нічым ня сьведчыць аб волі й роўнасьці, аб датрыманьні вялікіх словаў, казаных пад бразгат меча, нёсшага перамогу над „барбарамі ўсходу“ (маскалямі) й нібыто вызваленьне з-пад ярма гэтых барбараў.

Вызваленьне—але для каго?

І вызваленьне і прыгожыя клічы, як відаць, прызначаліся толькі для „сваіх людзей“, як кажуць—для землякоў, хоць адрэс выразна пісаўся „да жыхароў быўшага Вялікага Князьства Літоўскага“.

Не! Старажытнае гэтае Каязьства ня ведала тэй нацыянальнай нецярпімасьці, якая сеецца ў яго сталіцы ў нашыя дні, ў дні самаазначэньня народаў.

Хмурныя дні сярэднялітоўскіх „тымчасовасьцяў“ перад самым адчыненьнем Сярэднялітоўскага Сойму зрабіліся яшчэ хмурнейшымі.

Хочацца верыць, што й нядаўняя навальніца апошніх арыштаў зьяўляецца нічым іншым, як чарговаю пробаю дужых паказаць, што яны ня любяць доўгіх жартаў з тымі, хто можа й часова, але слабейшы за іх у сябе на Бацькаўшчыне.

## Для нас закон ня пісаны!

**Артыкул 109** канстытуцыі Польскае Рэчыпаспалітае кажа:

„Кожын грамадзянін мае права захоўваць сваю нацыянальнасьць і разьвіваць сваю мову і нацыянальныя ўласьцівасьці.

„Асобныя дзяржаўныя статуты забясьпечаць меншасьцям у Польскай Дзяржаве поўнае і свабоднае разьвіцьцё іх нацыянальных уласьцівасьцяў пры падмозе аўтаномных зьвязкаў меншасьцяў публічна-праўнага характару, ў межах зьвязкаў агульнага самаупраўленьня.

„Дзяржава ў адносінах да іх дзейнасьці будзе мець права кантролю і папаўненьня ў меру патрэбы іх грашавых засобаў“.

А ў **артыкуле 110** чытаем даслоўна:

„Польскія грамадзяне, якія належаць да нацыянальных, рэлігійных ці языковых меншасьцяў, маюць роўнае з другімі грамадзянамі права адкрываць, наглядаць і кіраваць сваім уласным коштам дабрачынныя, рэлігійныя і грамадзкія установы, школы і другія ўзгадавальныя установы, а такжа свабодна ўжываць у іх сваю мову і выпаўняць загады свае рэлігіі“.

Так напісана ў польскай канстытуцыі. Так мае быць у Польскай Рэчыпаспалітай.

Але на дзеле ёсьць зусім наадварот.

Нашы чытачы ведаюць, як зьліквідована «свабода» беларускае „меншасьці“ ў Горадне: горадзенскі стараста адным махам пяра зачыніў усе 17 беларускіх коопэратываў у Горадне і ваколіцах і загадаў у пяць дзён распрадаць усе тавары (нарушаны 110 арт.). Там-жа зачынена бяз дай прычыны беларуская штодзенная газэта „Беларускае Слова“, прыхільная да Польшчы; там-жа, супроць таго-ж 110 арт., зачынены Беларускі Камітэт і ўсе наагул беларускія установы.

Што робіцца з беларускімі школамі пад Польшчай, так сама ведама... Але ўсё тое, што ў нашай часопісі пісалася аб гэтым, выглядае на благія жарты паноў школьных інспэктароў, раўнуючы да вось гэтага цыркуляру школьнага інспэктара навааградзкага павету з 14 лістапада 1921 году, які падаём у арыгінале папольску:

Inspektor Szkolny w Nowogródku. Nowogródek 14/XI 921 r.

Do
Zarządu wszystkich Szkół Powszechnych
pow. Nowogródzkiego.

Z dniem 15 listopada 921 r. należy uważać wszystkie szkoły powszechne w pow. Nowogródzkim za szkoły z językiem wykładowym polskim. Język białoruski traktować należy jako przedmiot, ucząc w każdym oddziale po trzy godziny tygodniowo.

Wolne od nauczania języka białoruskiego są szkoły w następujących miejscowościach: 1) Chrapieniewo, 2) Daniłowicze, 3) Dąbrowica, 4) Geniusze, 5) Jelonka, 6) Kożuchowce, 7) Kuźmicze, 8) Kruciłowicze, 9) Mielachowicze, 10) Mieniewicze, 11) Mikulicze, 12) Nowogródek, 13) Rusołówka Wielka, 14) Rutka Polska, 15) Sorgowicze. 16) Wsielub i 17) Zubkow.

Uzasadnione życzenia ludności miejscowej w sprawie zmiany języka wykładowego polskiego na białoruski — będą przez Inspektorat Szkolny uwzględniane w miarę napływu nauczycielskich sił ukwalifikowanych.

Nauka języka rosyjskiego w godzinach szkolnych jest stanowczo wzbroniona. Wydane niektórym szkołom zezwolenie na naukę języka rosyjskiego unieważnia się.

Niniejszy okólnik nie obowiązuje szkoły powszechnej 7-klasowej w Jeremiczach.

M. P.

Stiasny.
Inspektor Szkolny.

Коратка і ясна: вучыць дзяцей пабеларуску забараняецца ўва ўсіх народных школах Навагрудзкага павету. Усе навукі павінны выкладацца выключна папольску. Беларускую мову можна выкладаць, толькі як прадмет (значыць, як францускую, нямецкую, або іншую), дый то ўсяго тры гадзіны на тыдзень...

Як бачым, для беларусаў польская канстытуцыя ня пісана. Яна пісана для палякоў і—для Эўропы, перад якой трэба паказаць польскую «толерантнасьць» у адносінах да „інародцаў“... Для нас, замест закону, ёсьць цыркуляр.

А цыркуляр гэты пярэчыць таму, што напісана ў канстытуцыі...

У тыя часы, калі мы, беларусы, разам з літоўскім народам жылі незалежным дзяржаўным жыцьцём у Вялікім Князьстве Літоўскім, наша канстытуцыя таксама забясьпечавала ўсім нацыянальнасьцям роўнасьць перад законам. У артыкуле 1-ым Статуту Вял. Кн. Літоўскага, выданага пабеларуску ў 1588 годзе, даслоўна гаварылася, што „такжа чужаземцы загранічнікі Вялікага Князьства Літоўскага, прыежджые і якім кольвек обычаем прыбылые людзі тым-жа правам маюць быць сужоны». І наша канстытуцыя была ня толькі напісана, а і праводзілася ў жыцьцё, аб чым сьведчыць хоць-бы вольнае разьвіцьцё заўсёды варожай нам польшчыны. Бо ў нас для «інародцаў» ня было цыркуляраў.

„Дэмократычная“ Польшча цяпер нам аддзякавала за гэта: для беларусаў у Польскім Гаспадарсьцьве няма закону, а ёсьць толькі цыркуляр.

А. Н.

## Беларусы ў Лацьвii.

### Адчыненьне вучыцельскiх курсаў.

Дзьвiнск. 14. I. 22 (ад уласнага корэспондэнта). 10 студня а 5 гадзiне ўвечары адчынiлiся тутака гадавыя беларускiя вучыцельскiя курсы.

Запiсалася на курсы больш як 50 чалав.

Прыняты—40 курсантаў.

Рэшце адмоўлена праз недахват месца.

На курсах выкладаюцца гэткiя навукi:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Беларуская мова . . | 4 | гадз. | ў | тыдзень. |
| „ лiтэратура | 1 | „ | „ | „ |
| „ гiсторыя . | 2 | „ | „ | „ |
| „ географiя . | 1 | „ | „ | „ |
| Латыская мова . . . . | 4 | „ | „ | „ |
| „ гiсторыя . . | 2 | „ | „ | „ |
| „ географiя . . | 1 | „ | „ | „ |
| Псыхолёгiя | | | | |
| Лёгiка | | | | |
| Пэдагогiка | | | | |
| Дыдактыка | | | | |
| Мэтодыка бел. мовы . . | 1 | „ | „ | „ |
| „ лат. мовы . . | 1 | „ | „ | „ |
| „ расейскай i iншых моваў . | 1 | „ | „ | „ |
| „ матэматыка . | 2 | „ | „ | „ |
| „ прыродазнаўства . . | 2 | „ | „ | „ |
| „ гiсторыi . . | 1 | „ | „ | „ |
| „ географii . . | 1 | „ | „ | „ |
| „ сьпеваў i сьпевы . . . . | 2 | „ | „ | „ |
| „ маляваньне . | 1 | „ | „ | „ |
| Школьная гiгiена . . . / „ гульнi . . . / „ гiмнастыка . | 2 | „ | „ | „ |
| Коопэрацыя i Правазнаўства . . . . . . | 1 | „ | „ | „ |
| Ручная праца . . . . . | 2 | „ | „ | „ |

Кожны дзень бывае 6 лекцыяў.

Кiраваньне курсамi ўзяў на сябе грам. К. Езавiтаў, пераехаўшы з гэтаю мэтай з Рыгi ў Дзьвiнск.

## Весткi з Коўна.

### „Вольная Литва“.

Пасьля трохмесячнай пярэрвы iзноў пачала выходзiць „Вольная Литва“, газэта нацыянальных меншасьцяў Лiтвы. Як i раней, рэдактарам газэты вядомы беларускi грамадзкi дзеяч—Я. Варонка.

### Абавязковасьць беларускай мовы.

Новы камандзер 1-га Беларускага палку ў Лiцьве маёр Розманас аддаў загад гэткага зьместу:

„Усiм вайсковым даручанага мне палку па службе i ва ўсякiх перапiсках ужываць толькi беларускую мову. Вiнаватых у невыкананьнi гэтага буду строга караць“.

## З ПРЭСЫ.

### „Мядзьведжая палiтыка“.

Пад гэткiм загалоўкам «Gazeta Krajowa» ў № 19 надрукавала спагадную для арыштаваных перадавiцу, ў канцы якой гаворыцца:

«Ня можна не сказаць аб гэтым пачуцьцi сораму, што польская ўлада гэтак компромiтуе польскае iмя i аблягчае заданьне нашых ворагаў. Ня можам устрымацца, каб ня выказаць таварыскага спагаду рэдактаром i нагул пiсьменьнiкам цяпер пакрыўджаным, у iдэйную чыстату якiх верым, хаця яны стаяць на процiлежным ад нас палiтычным баку“.

У другiм месцы пад загалоўкам «У справе арыштаваньняў (той самы нумар „Gaz Kr.“) знаходзiм, памiж iншым, гэткiя словы:

«Трэба зазначыць, што ў обысках бралi удзел нейкiя суб'екты ў шапках студэнтаў Унiвэрсытэту iмя Сьцяпана Баторага. Як вiдаць, пэўны процэнт нашае акадэмiцкае моладзi ёсьць на услугах палiтычнае палiцыi (!). Ува усiх грамадзянствах акадэмiчная моладзь зьяўляецца элемэнтам найперадавейшым, а ў нас студэнт працуе ўпоруч з жандаром. Цiкава, цi нашае студэнцтва зарэагуе на палiцэйскую працу сваiх колегаў, якая зусiм не да твару студэнту“.

Мы ня менш зьдзiўлены тым, да чаго можа дайсьцi нацыяналiстычныя заўзятасьць маладых людзей, што маюць гонар насiць студэнцкую шапку.

Спамiнаем тыя нядаўныя часы агульнай нявол пад гнётам расейскага царызму, калi прыстойныя польскiя сем'i лiчылi за вялiзную ганьбу пусьцiць у свой дом чалавека, калi ён быў на службе ў царскай жандармэрыi.

Калi-б хто-нiбудзь з беларускiх сем'яў захацеў iсьцi за гэтым старым прыкладам палякоў цяпер, дык, мабыць, мусiў-бы бойкатаваць ня толькi адных жандароў, а навет i польскiх студэнтаў.

### „Нашае жаданьне“.

Пад гэткiм назовам жыдоўская газ. „Унзэр Тог“ (№ 320) зьмясьцiла артыкул з прычыны арыштаў сярод беларусаў i лiтоўцаў, гаворачы:

«Яшчэ ўчора мы апiсвалi падробнасьцi вобыскаў i арыштаў сярод беларусаў i лiтоўцаў. Сягоняшнiя газэты расказваюць нам аб новых фактах, ад якiх абраз пагрому на лiтоўскiх i беларускiх дзеячоў у Вiльнi робiцца яшчэ больш чорным i хмурным. Ужываем слова „пагром“, бо не знаходзiм у даным выпадку iншага выразу, якi гэтак выразна iлюстраваў-бы замер таго кроку, якi быў зроблены, цi разыграваўся ўночы з 19 на 20 студня 1922 году.

Пэўна-ж—польскiя чорнасоценцы эндэцкага стала хочуць i стараюцца прадставiць гэтую справу ў вачох грамадзянства i публiкi, як выкрыцьце шпiёнскай арганiзацыi, замаху i г. д.— але-ж хто возьме шчыра на ўвагу даносы тых „чыста-палякоў“, дзеля якiх кожнае зданьне грамадзянства, якое ня годзiцца з iх iнсынуацыйнымi манiфэстацыямi i людаеднымi артыкуламi—зьяўляецца зговорам, замахам, дзяржаўнай здрадаю i г. д.—i гэтыя ўсе страшныя рэчы называюцца даносамi тых людзей, якiя ў большай меры зьяўляюцца адпавядальнымi за незадаваленьне i опозыцыю сярод шырокiх масаў насяленьня.

Могуць яны сабе гаварыць, што хочуць—ясна, што апошнiя вобыскi й арышты падкрэсьлiваюць новы кiрунак у адносiнах мясцовых уладаў да кругоў, якiя стаяць у опозыцыi да сучаснай сытуацыi ў Сярэднiй Лiцьве.

I той факт, што гэтыя вобыскi i, арышты адбылiся не перад выбарамi да вiленскага сойму, а пасьля выбараў, таксама сьведчыць, што маем тут дачыненьне не з бальшавiцкiм замахам, а з новай палiтыкай процi прадстаўнiкоў няпольскiх нацыянальнасьцяў—палiтыкай, якую не адважылiся ўвесьцi тады, калi яшчэ трэ' было падлiзавацца да гэтых нацыянальнасьцяў, спадзяваючыся: а мо' i пойдзе нарэшце, хто-колечы з iх на выбары...

Але, якiя-б нi былi заднiя кулiсы i мотывы гэтых вобыскаў i арыштаў, мусiм мы, прадстаўнiкi жыдоўскага насяленьня падняць наш протэст процi адмены й нешанаваньня асабiстае свабоды грамадзян нашага краю i жадаем незабаўнага iх звальненьня...

Далей газэта кажа, што ў гэтым выпадку нельга навет давяраць пракуратуры, што адна яна хутка выясьнiць i высьвятлiць гэтую справу, бо факт трыманьня ў вастрозе амаль ужо з год вучыцеля й iнструктара гiмнастыкi жыдоўскiх школаў п. Шавэля гэтага не даказвае, а сьледзтва ўсё яшчэ цягнецца.

Дзеля гэтага газэта яшчэ раз заяўляе:

„Жадаем незачэпнасьцi жыхароў усiх нацыянальнасьцяў нашага краю“.

## Палiтычная хронiка.

*Пятнiца*, 20 *студня*.

— Па пастанове Вярхоўнай Рады на конфэрэнцыi ў Гэнуi будуць прадстаўлены ўсе эўропэйскiя дзяржавы, Злучаныя Штаты, Японiя, ангельскiя колёнii й Iрляндыя.

— Конфэрэнцыя ў Каннах аканчальна рашыла, што Нямеччына павiнна заплацiць у 1922 годзе 720 мiльёнаў марак золатам.

— Чычэрын паслаў у Канны радыятэлеграму, трэбуючы, каб эканамiчная конфэрэнцыя была склiкана замест Гэнуi ў Лёндане.

— Прэм'ерам Iрляндыi ўсiмi галасамi процi аднаго выбраны Грыфiт.

— Вашынгтонская конфэрэнцыя адкiнула прапазыцыю аб абмежаваньнi паветранае флёты.

— Паводлуг прыватных вестак з Масквы, карэльскае паўстаньне зусiм зьлiквiдована.

*Субота*, 21-*га студня*.

— Як паведамляюць газэты, iтальянскi ўрад незабаўна адкiне прапазыцыю Чычэрына аб склiканьнi эканамiчн. конфэрэнцыi замест Гэнуi ў Лёндане.

— На пасяджэньнi Рады Лiгi Народаў у Жэнэве быў разгледжаны протэст лiтоўскага ўраду процi выбараў у Вiленшчыне.

— Ангельскi ўрад пастанавiў незабаўна вывесьцi свае войскi з Iрляндыi.

---

Ўлад. Д. Гутоўскi.

## СУРДУТ I СЯРМЯГА

Драматычны абраз з песьнямi i танцамi ў 3 актах

(*Пераклад з польскага*).

**Сьпевы ў перакладзе Наталкi Арсеньневай.**

ооооооо

(Глядзi № 1).

**Тамаш.** А што мае быць? Пажэнiмся i толькi таго.

**Магда.** I ты думаеш, што бацькi пазволяць?

**Тамаш.** Калi я пачну iх шчыра прасiць, але так шчыра, колькi буду мець моцы, а пасьля прад вамi пакланюся, ўсё будзе добра.

**Алеся.** Дай Божа, Матачка цудоўная.

**Тамаш.** Ой, бачу, Алеся, што ты мяне кахаеш, што хоць езьдзiла ў Варшаву, аднак, не запомнiла мяне. Яшчэ больш кахаю цябе за гэта!

**Алеся** (з дакорам). Як ты мог аб гэтым падумаць, што я цябе магла запомнiць?

**Тамаш.** Кахаючы цябе, вельмi баяўся, каб ня страцiць:

Як дзяўчына вёску кiне
Зараз i здаецца,
Што яна гдзесь марна згiне,
Дамоў не вярнецца.

А як сэрца яшчэ ўзята,
Усе чыста думы,—
Бы турмой здаецца хата,
Давяць туга - сумы...

Табе дзiўна, — а баяўся,
Што мяне разьлюбiш,
На'т за працу я ня браўся...

**Алеся** (сьпявае):

Ведаю, што любiш,
А калi я штось сказала —
Мае словы сьвяты:
Iх я ў сэрцы захавала,
Вярнуўшысь да хаты.

**Тамаш:**

Бо калi ты штось сказала
Твае словы сьвяты,
Iх ты ў сэрцы захавала,
Вярнуўшысь да хаты.

(Агата борзда ўбягае).

### Зьява III.

#### Тыя-ж i Агата.

**Агата.** Цi няма кума тут майго, Рыгора? Пайшоў кудысьцi i знайсьцi яго не магу!

**Магда.** Да нас ён ня так скора прыйдзе.

**Агата.** Яшчэ чаго! Абгаварыць кагосьцi i хацець, каб гэтага не памятаць (заўважвае Тамаша). А ты чаго тут сядзiш? Iдзi мне зараз да хаты! Каханьне! Пачакай, выб'ю я табе гэта з галавы!

**Тамаш** (абыймаючы яе за ногi). Але-ж мамачка, зьлiтуйцеся нада мной!

**Магда.** Кума, калi старыя ў спрэчцы, дык, цi-ж гэта датычыць маладых. Памятаеце — разам гулялi вясельле; старыя Андрук i Казiмер былi ў злосьцi, а дзецi-ж пажанiлiся i добра жывуць.

**Агата.** Гутарка, гутарка... дый толькi! Што Андрук i Казiмер, то не Янка й Рыгор i квiта? Ўрэшце Казiмер быў дурны, што пазволiў свайму Януку жанiцца з Андруковай Ганнай, я гэткая ня буду, пабачыце. Ну, далей, Тамаш, зараз марш да хаты i то хутка, пакуль я ня ў злосьцi.

**Тамаш.** Ай, мамачка, мамачка, вы такая злая, што хто вас ня знае, падумаў-бы, што i запраўды такая...

**Агата.** А што ты думаеш, што я жартую з гэтага?

**Тамаш.** О, не! Толькi мне здаецца, што вы хочаце мяне трохi памаркоцiць, каб яшчэ большую аскому нагнаць на Алесю!

**Агата.** О, о, каб гэта было на каго!

**Магда.** Кума, вельмi так не клапацiся!

**Агата.** А ведама!

**Магда.** Як мне Бог мiлы, скажу вам так, што папомнiце!

**Агата.** Уся вёска ведае, якi язык маеце.

**Магда.** Што вам за дзела да майго языка? Пiльнуйце свайго; бачыш, як ляпу разявiла!

**Агата.** Разявiла... разявiла.

**Алеся.** Мама, бойцеся Бога, што вы пачалi!

**Магда.** Iдзi ў камору... а нi думай паказвацца..., здалёку ад Тамаша, а не дачакаецеся вы!

**Агата.** Можа, кума, яе вышлеш у Варшаву, будзеш мець далiкатную мармузэлю!

**Тамаш.** Мама, не рабеце жартаў, бо я стану ў абароне Алесi, я не пазволю яе зьневажаць. А калi-б вам хацеласяназлосьць мне зрабiць, дык я дам сабе рады.

**Агата.** Што я чую? Як ты сьмееш сваёй матцы гэтак адказаваць?

**Тамаш.** Я нiчога не кажу супроць, адно працiў вашай злосьцi, бо я кахаю Алесю, i, каб ня ведаю што мелася стацца...

**Агата** (плачучы). О, доля-ж мая, доля...

**Тамаш** (падыходзiць да яе). Мамачка мая, ня плачце. Я не хацеў вас абразiць, але вы мне надта дакучылi, бо хто скажа на Алесю кепскае, дык усё роўна, як-бы й мне сказаў. Я вас перапрашаю i ўжо нiколi гэтага не зраблю.

**Агата.** Гэткая заплата за маё дабро? Цi-ж я гэтага спадзявалася?

**Магда** (выцiраючы сьлёзы). Ну, кума, кума, сьцiхнiце. Вы мне сказалi, а я вам i скончылася. А й Тамаш, адно, ў злосьцi так адказаў; самi ведаеце, якi ён прыстойны хлапчына. Каб быў iншы, дык я ня была-б такая здаволеная, што ён заляцаецца да мае Алесi!.. Дзеўкамi былi—жылi ў згодзе, так i цяпер.

**Агата** (выцiраючы сьлёзы). Праўда, кума, навет усе казалi, што мы, як-бы блiзьняткi.

**Магда.** Дык няхай-жа, кума, i дзецi нашыя будуць шчасьлiвы.

**Агата** (цалуецца з Магдай). Такая я ўжо цяпер уздаволеная, што й адказаць не магу. Я зга-

— У Рызе адбыўся зьезд латыскіх соцыялістых, які выказаўся за добрыя адносіны балтыцкіх дзяржаваў з сав. Расеяй і проці ваеннай конвэнцыі з Польшчаю.

*Нядзеля*, 22 *студня*.

— Рада Лігі Народаў зацьвярдзіла Гакінга на пасадзе высокага камісара ў Гданску.

— Амэрыка ня вышле прадстаўніка на конфэрэнцыю ў Гэную, пакуль зусім не азнаёміцца з праграмаю яе.

— Палажэньне бальшавікоў у Сыбіры крытычнае. Войскі церпяць голад.

— Лацьвійскае міністэрства справядлівасьці выдала распараджэньне аб увядзеньні латыскае мовы ў судзе, як урадовае.

— „Правда“ паведамляе, што лік карэльскіх паўстанцаў даходзіў да 6.000 чалавек. Паўстанцы ўсюды адыйшлі за фінляндзкую граніцу.

*Панядзелак*, 23 *студня*.

— 20. I а поўначы памёр Рымскі Папа Банадык XV.

— Італьянская ваенныя ўлады будуюць радыятэлеграфныя станцыі дзеля сувязі паміж Бэрлінам, Варшавай, Прагаю й Масквой падчас конфэрэнцыі ў Гэнуі.

— Савецкая прэса лічыць назначэньне Пуанкарэ францускім прэм'ерам апошняю спробаю процісавецкай інтэрвэнцыі й заклікае ўвесь камуністычны пролетарыят аднавіць барацьбу з гатовым да нападу праціўнікам камунізму.

— Румынскі кароль пасьля адстаўкі Такэ Іонэску даручыў стварэньне новага кабінэту павадыру лібэралаў Братанья.

— 24. I ў Варшаву выяжджае з Рэвалю эстонская дэлегацыя дзеля заключэньня гандлёвага дагавору паміж Эстоніяй і Польшчай.

— На Далёкім Усходзе ідуць заўзятыя бáі паміж войскамі Мэркулава і рэспублікі Дал. Усходу,

*Аўторак*, 24 *студня*.

— Нямецкі ўрад апрацоўвае мэморыял міжсаюзнай камісіі па контрыбуцыі, ў якім будзе дабівацца новае адсрочкі платы.

— Газэты паведамляюць, што амэрыканскі прэзыдэнт Гардынг рашыў прыняць удзел у Гэнуэскай конфэрэнцыі на варунках няпрызнаньня савецкае ўлады ў Расеі, абмежаваньня сухапутных азбройваньняў згодна з трэбаваньнямі Амэрыкі і неразглядананьня справы эўропэйскіх даўгоў Амэрыцы.

*Серада*, 25 *студня*.

— У Ліцьве магчыма, што пайшоўшы ў адстаўку кабінэт Грынюса вернецца да ўлады.

— Лацьвійскі ўрад на просьбу літоўскага ўраду спыніў пропуск уцекачоў праз Лацьвію ў Літву; прычына—небясьпека, якою пагражае пашырэньне эпідэміі.

— Дзеля перапаўненьня концэнтрацыйных лагераў сав. Расеі, ўрад распарадзіўся выпусьціць на волю старэйшых, што маюць больш як 50 гадоў і дзяцей да 12 гадоў.

— Аўстрыйскі кабінэт падаўся ў адстаўку.

*Чацьвер*, 26 *студня*.

— У Саксоніі забаставалі чугуншчыкі.

— Павадыр ірляндзкіх незалежнікаў дэ-Валера, што знаходзіцца цяпер у Парыжы, выпусьціў адозву аб далейшай барацьбе за поўную незалежнасьць Ірляндзкае Рэспублікі ад Велікабрытаніі.

— Карэльскія паўстанцы занялі Мурманскую чугунку на працягу 2 міль.

— Чычэрын адказаў італьянскаму прэм'еру, што бальшавікі склікаюць на 27 студня ВЦИК дзеля выбараў дэлегатаў на конфэрэнцыю ў Гэнуі

— У Румыніі распушчаны парлямэнт.

# Жыцьцё провінцыі.

---

### Доля арыштованых у Беніцкай воласьці.

Арыштованым на палітычным грунце беларускім сялянам і вучыцялём Беніцкай воласьці Ашмянскага павету, пасьля зробленага судоваю ўладаю сьледзтва, абвешчана, што вучыцель Янка Дудка можа быць выпушчаны да сулу на волю пад заклад 300 тысяч марак, вуч. Аўген Южык саўсім не выпушчаецца ні за якія грошы, сяляне: Яцэвіч можа быць выпушчаны пад заклад 200 тысяч, Рубан—300 тысяч, Сапач—300 тысяч, Рамановіч — 10 тысяч. Вызваліліся ўжо сяляне: Вайда пад заклад 10 тысяч, Казлоўскі - 50 тысяч, Казёл—25 тысяч, Яцэвіч Паўлюк—50 тысяч. Каму назначаны вялікія заклады,—мусіць, ня выйдуць, бо яны бедныя, а помачы ніскуль няма.

### Я. Гаўрыліка выпусьцілі.

Арыштованы на палітычным грунце вучыцель беларускае школы ў в. Заскевічы Беніцкай вол., Ашмянск. пав. Я. Гаўрылік, пасьля зробленага судоваю ўладаю сьледзтва, выпушчаны з Лукіскага вастрогу ў Вільні да суда пад заклад 30.000 польскіх марак. Вучыцель Я. Гаўрылік сядзеў арыштованы спачатку ў Ашмянскай турме, потым быў пераведзены ў „адзіночку“ на Лукішкі, а пасьля сядзеў удвух з другім арыштованым вучыцелем. Праседзіў Я. Гаўрылік да вызваленьня пад заклад 30 дзён—якраз увесь час выбарнай кампаніі.

Трэба ад'значыць, што пры дапросах у Вільні сьледчы судзьдзя абвесьціў Я. Гаўрыліку, што на яго пададзена абвінавачаньне ў агітацыі супроць выбараў у Віленскі Сойм. Пры першым дапросе (павятовым судзьдзёю) гэтага абвінавачаньня яшчэ ня прыводзілася,—значыцца, гэты данос паступіў на Я. Гаўрыліка ў часе яго сядзеньня ў турме, гдзе ён ніяк ня мог агітаваць.

Я. Гаўрылік адказаў, што ён быў арыштованы да выданьня дэкрэту аб выбарах.

---

## Як рабіліся выбары ў Сойм.

**В. Міхневічы, Беніцкай гміны.**

Абвод № 31, Ашмянскага вокругу:

1) Добрая палавіна зьявіўшыхся выбаршчыкаў галасавала за сваіх родных і знаёмых,—кідалі па 6 і болей канвэртаў.

2) Прэзэс камісіі глядзеў на сьвет канвэрты: які нумар палажылі ўнутры?

3) Тым, хто ня прыносіў сваіх нумароў, давалі пры урнах № 1.

4) Усяго галасоў пададзена 1200 (з 1800), а тымчасам галасавала ня болей 300 чалавек.

5) Аказалася ў урне 51 пустых картак, гэта сьведчыць, што многія галасавалі, баючыся рэпрэсіяў.

Кволы.

### Якая была «добрая воля».

У м. Рудоміне, Віленскага павету галасаваньне адбывалася гэгак:

1) Цэлы дзень 8-га студня людзей мучылі на вуліцы, не дазваляючы навет стаяць парамі і стаўляючы ў калейку. І так трымалі. Некаторыя навет паадмарожавалі сабе насы, а ўцячы баял ся, бо сказана было: хто ня будзе галасаваць, таго пагоняць да начальніка 4 раёну на дапросы, чаму, на якой падставе ён адмаўляецца галасаваць. Каб ня мець гэтых прыкрасьцяў, кожны і стаяў у чарадзе, хоць у гэты час і з адмарожанымі нагамі.

2) У часе галасаваньня, калі хто прыходзіў, то ў яго пыталіся, чаму ня прыйшла яго матка ці бацька, і загадавалі браць №№ і кідаць за іх. І той, рад ня рад, мусіў так рабіць.

3) Прыводзілі галасаваць такіх вельмі старых людзей, што ўжо й змыслы свае даўно патрацілі, а ўсіх праваслаўных і жыдоў ганялі галасаваць гвалтам і пад канвоем, навет позна ўвечары, гадзіне а дзесятай,

К.

---

### Незанесеныя ў сьпіскі.

У часе галасаваньня ў мястэчку Кабыльніках і засьценку Жарах аказалася, што многа людзей гэтай беларускай мясцовасьці не занесены ў выбарныя сьпіскі.

У працягу некалькіх мінут аказалася, што не маглі галасаваць, бо ня былі ўнесены ў сьпіскі, гэткія асобы: Яцына Мар'я з в. Купа; Баркоўскі Язэп з м. Кабыльнікаў; Варкоўская Кастанцыя з м. Кабыльнікаў; Дашкевіч Язэп з м. Кабыльнікаў; Дашкевіч Настуля з. м. Кабыльнікаў; Родзевіч Дамініян з м. Кабыльнікаў; Яновіч Мальвіна з в. Яноўшчына; Каравацкі Антон з м. Кабыльнікаў і інш.

У вагуле, аднак, самі грамадзяне ня ведалі, унесены яны ў сьпіскі ці не, бо ніякага ўчасьця ў выбарах ня приймалі.

### Цэлыя вёскі ня былі ўпісаны.

З м. Кабыльнікаў мы даведаліся, што некаторыя вёскі зусім ня былі ўпісаны ў выбарныя сьпіскі, або з цэлай вёск

---

джаюся, але мой... ня ведаю... прысягнуў, што ня згодзіцца.

**Магда**. Майма надзею на Бога. Ён усё зробіць! (Уваходзяць Янка, Мацей, Рыгор і Каспар).

**Рыгор** (неахвотна). Каб я так здароў быў, што маю рацыю.

**Мацей**. Што Вы маеце? Ужо калі я Вам кажу, што ня маеце, дык ня маеце!

**Рыгор**. Што я пазволю сабе дапякаць і буду стаяць, як сухая вярба... не... не... каб я так здароў быў. І ня маеце мяне пашто цягаць, бо я не згаджуся.

**Каспар**. А Пан Езус кажа віны дараваць!

**Рыгор**. Гэта ведама, што кажа, але я што іншае!

**Янка**. Мой куме, кепска я зрабіў, шкадую цяпер і прашу прабачэньня!

**Рыгор**. Гэтак і трэба, каб я так здароў быў!

**Каспар**. Дык падайце руку на згоду. А калі бацькі будуць у згодзе, дык і Тамаш з Алесяй будзе пара!

**Рыгор**. Не магу, каб я так здароў быў. Каб яшчэ ваш Пранук з вамі інакш абыйшоўся, дык яшчэ можна было-б гаварыць,—а ўрэшце, я ўжо Тамаша прырок Войткавым...

**Мацей**. Як прырок?

**Агата** (падыходзіць). Што ты лжэш?

**Рыгор**. Агата, і ты тут?

**Агата**. Як бачыш!

**Мацей**. Ну, бачыце, што Войткавы ня маюць нічога запэўненага, а калі яны так кахаюцца, дык гадзецеся!

**Рыгор**. Калі я прысягнуў, дык цяпер не магу (Ўваходзіць Сельскі).

**Зьява V.**

**Тыя-ж і Сельскі.**

**Сельскі**. Пахвалёны ў хату!

**Усе**. Навекі!

**Сельскі**. Ці тут жыве Янка Пыхала?

**Янка**. Так паночку, гэта я.

**Сельскі**. Пазвольце супачыць хвіліну.

**Магда** (падае зэдлік). Калі ласка, адпачыньце, паночку.

**Сельскі**. Дзякую вам! У карчме, дзе стаяць мае коні, сказалі мне, што вы прадаіцё сваю зямлю.

**Усе** (занепакоіўшыся). Як... прадаць?

**Мацей**. Ці гэта праўда?

**Янка**. Праўда, што хацеў прадаць, але ўжо не прадам.

**Мацей** Дзякуй Богу!

**Янка**. Рабіў глупствы ў жыцьці, хацеў і гэта зрабіць, але ў самую пору Бог мяне перасьцярог!

**Сельскі**. У гэткім выпадку, бачу, што напрасна да вас прыехаў. А можа хто іншы прадае?

**Мацей**. Паночку, ў цэлай вёсцы ня знойдзеце гаспадара, які хацеў-бы пазбыцца свае зямлі. Гдзе чалавек радзіўся, там і памірае; кавалак зямлі для кожнага вельмі дарагі!

**Сельскі**. Ня кожны можа даць рады з сваей зямлёй, іншага бяда да гэ ага змусіць. Некаторыя дзеля заработку прадаюць, або выяжджаюць заграніцу.

**Мацей**. Бог выразна сказаў: працуй, а я табе дапамагу. Чалавек павінен працаваць, а пры помачы Божай работа яму будзе спорыцца; ў няшчасьці знойдзецца спагадная рука суседзяў, якія памогуць. Урэшце, ў клопатах можа чалавек і рашыў-бы прадаць, але як падумае, што на гэтым кавалку зямлі дзед і прадзед працаваў і потам сваім яго абліваў, дык, маючы надзею на Бога, адкідае думку гэту, гэту пакусу, бо ня выжыў-бы, пры аднэй думцы, што чужыя ногі будуць таптаць, так дарагую нам зямлю. Такіх, каб дзеля заработку, як той Юда прадалі, мала між мужыкамі знойдзецца, а ў нашай вёсцы іх зусім няма. Заграніцу нам няма што сьпяшацца, толькі буслы ад нас туды лятуць. Наймілей нам у сваім гнязьдзе.

**Сельскі** (ўстаючы). Маеце рацыю, шаноўныя людзі. Няма нічога даражэйшага за свой уласны куток. Вось я і не налягаю. Але... але... ці гэта вы часам ня будзеце бацькам Пранцішка, што адвакатам у Варшаве?

**Янка**. Меў сына—але цяпер яго ня маю.

**Сельскі**. А чаму—шак-жа жыве?

**Янка**. Га жыве—але я ўжо яго ня бацька.

**Сельскі**. Як! Ці вы яго выракліся?

**Янка**. Мой паночку, ці я меў выракчыся свайго дзіцяці? Я, каторы яго вельмі кахаў і нічога не шкадаваў для яго. Працаваў цяжка, каб даць яму адукацыю, а сягоньня...

Працаваў да поту ў полі,
Зьдзек цярпеў, як жыд...
А якая мне награда,—
На'т прызнацца—стыд!
Маё роднае дзіцятка
Адраклось мяне,—
Бо ў яго палац, ня хатка,
Бо як пан жыве!

Хоць Ты бачыш, мілы Божа,
Што зрабіў мой сын,
Ты выбач, калі Ты можаш:
Ён у нас адзін!

Ён ў сурдуце, я ў сярмязе,
Хоць дзеці Твае...
Пакарай у такім разе
Не яго—мяне...

**Сельскі**. Як гэта, значыць, ён вас выракся?

**Янка**. Пакінем гэту гутарку, паночку! Кепска сталася, а ўсё мая віна. Справядліва мяне Бог пакараў.

**Сельскі**. Дзівіць мяне гэта вельмі, што Пранцішак гэтак з вамі абыйшоўся, бо ўсе яго знаёмыя найлепш аб ім ад'зываюцца.

**Мацей**. Не аб адным добра гутараць, пакуль добра не пазнаюць. Так сама і з ім. Тое, што сказаў я некалі—спрадўзілася.

**Сельскі**. Мой гаспадару, кожны з нас можа зблудзіць, а калі шкадуе, што блага зрабіў, дык дараваць трэба!

**Мацей**. Я даю галаву на адрэз, што Пранук выракся свайго роду і бацькоў, ужо спакойны, што яго ніхто ня знойдзе. О, Бог, яму ніколі не даруе.

**Янка**. Мацей, не праклінай дзіцяці, ён вінен, але большая яшчэ віна мая. Цяжка мне пагадзіцца з тым, што яго больш не пабачу, але воля Божая. Цяпер, адно, малюся за яго і няхай яму Бог выбачыць, як я яму выбачыў (складае рукі да малітвы, ўбягае Пранцішак).

*Пераклажыў* **А. Абрамовіч.**

(Канец будзе).

былі ўпісаны 1—2 чалавекі. Па словах сябра, выбарнай камісіі пана Маліноўскага незанесеных у сьпіскі амаль ня 30 процэнтаў.

### „Дадатковыя“ сьпіскі.

Увечары 8 студня ў выбарную камісію ў м. Кабыльніках зьявіўся нейкі інжынер Вансовіч, які запрапанаваў зрабіць дадатковыя сьпіскі на тых, якія хочуць галасаваць, але не занесены ў сьпіскі.

Каб перакanаць прысутных, што гэтак рабіць можна, п. Вансовіч дадаў, што ў Сьвянцянскім павеце зроблены пры яго ўчасьці такі дадатковы сьпісак на 200 чалавек.

Каго і як пісалі ў гэтыя дадатковыя сьпіскі, казаць хіба непатрэбна.

### „Муж і жана—адна сатана“.

Пад канец выбараў 8 студня выбарная камісія ў Камаях прыняла прапазыцыю п. Вансовіча і інструктара „Зьвёнзку бесьпячэнства краю“ пана Лапы-Вішнеўскага і дазволіла падаваць галасы мужам за адсутных жон, а жонам за мужоў і сваякоў. Адным словам, зрабілася па той прыказцы, што „муж і жана—адна сатана“.

# Беларуская хроніка.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ
## Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.

За два дні да выбараў у Віленскі Сойм, 6 гэтага студня, беларускія грамадзкія арганізацыі ў Вільні адтрымалі ведамасьці аб тым, што ў гэты самы дзень польскімі ўладамі „Сярэдняе Літвы“ мелі быць зробленымі масавыя арышты сярод беларускіх дзеячоў, як рэванш за адмову Беларускага Нацыянальнага Камітэту ад удзелу ў выбарах.

У адтрыманых ведамасьцях указвалася, што толькі прысутнасьць у Вільні прадстаўнікоў Лігі Народаў змусіла польскія ўлады часова адлажыць арышты—да канца выбараў.

Па гэтай прычыне беларускі дзеяч палк. Я. Ладноў, толькі што прыбыўшы з Парыжа, адведаў галаву польскага ўраду „Сярэдняй Літвы“ пана Мэйштовіча, які катэгорычна заявіў яму, што ён, Мэйштовіч, нічога аб замераваных арыштах ня ведае, што ведамасьці аб іх зусім не адпавядаюць праўдзе і што аб якіх-бы там ні было рэпрэсіях у адносінах да беларусаў ня можа быць і гутаркі.

Наадварот гэтым зусім офіцыяльным завярэньням, ўночы з 19 на 20 гэтага студня і раніцай 20 студня быў зроблены рад вобыскаў у беларускіх грамадзкіх інстытуцыях і арыштованы рад відных беларускіх дзеячоў. Вобыскі зроблены: ў Беларускім Нацыянальным Камітэце, Беларускай Гімназіі, ў рэдакцыях беларускіх газэтаў «Беларускія Ведамасьці» і «Беларускі Звон» у Беларускай Цэнтральнай Школьнай Радзе, ў Беларускай Кнігарні, ў Беларускім Музыкальна-Драматычным Гуртку, ў Гуртку Студэнтаў-Беларусаў Унівэрсытэту Сьцяпана Баторага, нарэшце, ў Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі. Пры гэтым арыштована каля 20 асобаў, у тым ліку: 1) сябар прэзыдыуму й сэкрэтар Беларускага Нацыянальнага Камітэту, быўшы камандзер паўстанчых аддзелаў у Слуцкім павеце, быўшы сябар Беларускае Вайсковае Камісіі, пакліканай да жыцьця дэкрэтам Начальніка Польскае Дзяржавы, п. Пілсудскага, *Андрэй Якубецкі*; 2) сябар прэзыдыуму Беларускага Нацыянальнага Камітэту, старшыня паўстанцкай Слуцкай Рады, *Ўладымер Пракулевіч*, быўшы судзьдзя; 3) сябар Беларускага Нацыянальнага Камітэту, быўшы старшыня яго, *Фабіян Ярэміч*; 4) сябар Белар. Нац. К-ту, *Аляксандар Карабач*; 5) сябар Бел. Нац. К-ту, рэдактар газэты „Беларускія Ведамасьці“, вядомы беларускі літэратар, цяжка хворы *Максім Гарэцкі*; 6) сябар Бел. Нац. К-ту, рэжысэр беларускай драматычнай трупы, *Родзевіч*; 7) сябар Бел. Нац. К-ту, сэкрэтар Саюзу Сельска-Гаспадарчых Рабочых, *Невядомскі*; 8) дзелавод Бел. Нац. К-ту, *Дубіна*; 9) старшыня Бел. Муз.-Драмат. Гуртка, *Валэйша*; некалькі начаваўшых у памяшканьні Беларускай Цэнтральнай Школьнай Рады вучыцялёў і вучыцелек беларускіх народных школаў, прыбыўшых з провінцыі, і рад іншых асобаў.

Ледзь нараніцы 20 студня вялікі аддзел паліцыі ўвайшоў у комплекс будынкаў, у якіх зьмяшчаецца Беларуская Гімназія, Беларускі Прытулак, Беларускі Нацыянальны Камітэт, рэдакцыя газэты «Беларускія Ведамасьці», Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя і Праваслаўны Жаноцкі Манастыр. Вобыскі рабіліся ў памяшканьнях Беларускага Нацыянальнага Камітэту, рэдакцыі „Бел. Вед.“, ў кватэры Дырэктара Гімназіі, ў Канцэлярыі і клясах Гімназіі, ў Духоўнай Сэмінарыі і ў некаторых прыватных асобаў, што пражываюць у сказаным комплексе будынкаў. Усе ўваходы і выхады былі абстаўлены паліцыяй. Таму, што дзень быў будні, дык вучні й вучыцялі ў звычайны час пачалі зьбірацца ў Гімназію. Паліцыя давала магчымасьць усім, хто хацеў, уваходзіць, але выходзіць назад не пазваляла. Таму што паліцыя ўвайшла ў карыдоры Гімназіі, дык аб нормальных занятках, разумеецца, не магло быць і гутаркі, асабліва пасьля арышту двох вучыцялёў Гімназіі: Гарэцкага і Якубецкага. Паліцыя, аднак, адмовілася выпусьціць з Гімназіі навет найменшых дзяцей і, гэткім чынам, каля 400 вучняў таксама апынуліся пазбаўленымі волі. Калі-ж дзятва, згаладалая да 2-й гадзіны дня, папрабавала была прарвацца праз паліцэйскі кардон, каб пайсьці дамоў,—паліцыя, набіўшы стрэльбы баявымі набоямі, навяла стрэльбы на дзяцей і толькі прысутнасьць духу старшых вучняў адвярнула праліцьце крыві, якое гатова было здарыцца.

Даведаўшыся аб тым, што дзеялася, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту, І. Краскоўскі, разам з сябром Камітэту інжэнерам А. Трэпкаю, зьвярнуліся да польскіх уладаў, дамагаючыся, па крайняй меры звальненьня з-пад арышту затрыманых у Гімназіі некалькіх сот дзяцей. Аднак старшыня польскага ўраду „Сярэдняе Літвы“ Мэйштовіч адмовіўся прыняць іх, тое самае зрабілі і іншыя вышэйшыя прадстаўнікі ўлады. Толькі дзякуючы звароту да пракуратуры прыватных асоб—палякоў, абураных гвалтам улады над беларускімі дзяцьмі, арыштованыя школьнікі былі а 2 гадзіне ўдзень выпушчаны на волю.

Ўсе арыштованыя беларускія дзеячы адразу пасьля арышту былі адведзены ў Цэнтральную Турму на Лукішках.

Вільня, 21 студня 1922 г.

Старшыня Камітэту
(—) **І. Краскоўскі.**

За Сэкрэтара
Сябар Прэзыдыуму
(—) **Ант. Луцкевіч.**

### Арышт І. Краскоўскага.

23 г. студня пасьля доўгага вобыску арыштованы Старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту І. Краскоўскі.

### У Беларускай Гімназіі.

Ня гледзячы на доўгі (каля 4 гадзін) вобыск у кватэры Дырэктара і арышт (20 гэтага студня) двох вучыцялёў: Гарэцкага і Якубецкага, нормальныя заняткі ў 1-й Віленскай Беларускай Гімназіі ідуць далей. Ад Дырэктара Гімназіі грам. М. Кахановіча ўзята ўладаю падпіска аб нявыезьдзе з Вільні.

### У Беларускай Кнігарні.

А 1½ гадзіне раніцы 20 гэтага студня на моцы распараджэньня Сьледчага Судзьдзі 6-га вокругу м. Вільні паліцыя зрабіла безрэзультатны вобыск у Беларускай Кнігарні на Завальнай вул. № 7 і ў кватэры загадчыка кнігарні грам. С. Станкевіча. Як сказана ў пакіненым у кнігарні чарнавым пратаколе вобыску, «нелегальнай літэратуры ані корэспондэнцыі, а таксама і зброі» ня было ў кнігарні.

### Выезд Янкі Станкевіча.

Як мы дачуліся, гэтымі днямі выехаў з Вільні заграніцу дзеля паступленьня студэнтам у Чэскі Унівэрсытэт у Празе грам. Я. Станкевіч, які быў дасюль рэдактарам выданьняў „Беларускага Выдавецкага Таварыства“.

Хто мае замяніць грам. Станкевіча ў адпавядальнай ролі рэдактара кніжак па большай часьці школьнага характару яшчэ невядома, але трэба спадзявацца, што работа гэта моцна зьменіцца ў лепшы бок. Я. Станкевіч, рэдагуючы навет школьныя падручнікі, мала рахаваўся з аўторамі зьмешчаных у падручніках твораў і кніжкі выходзілі нейкімі вельмі монатоннымі. Шмат провінцыялізмаў, а часта й зусім штучных словаў, якія ўводзіліся ў кніжкі рэдактарам, часта выклікалі незадаваленьне аўтораў. Аднак, праца грам. Станкевіча была вельмі цяжкаю і спаўнялася зусім шчыра з укладаньнем усяе яго маладое сілы.

### У Музыкальна-Драматычным Гуртку.

У нядзелю, 22 гэтага студня а 4 гадзіне ўдзень меў быць *агульны сход* сяброў Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка ў яго памяшканьні на Біскупскай вул., 12. Парадак дня: 1) Справаздача Рады Старшыняў, 2) Справаздача Рэвізійнае Камісіі, 3) Прынятак кандыдатаў у сябры Гуртка, 4) Зацьвярджэньне каштарысу на 1922 г. і 5) Выбары Рады Старшыняў.

З прычыны вобыску, зробленага ўладаю ўночы з 19 на 20 гэтага студня і часовага арышту прэзэса Рады Старшыняў Гуртка грам. С. Валэйшы, а таксама й арышту некалькіх сяброў Рады Старшыняў—агульны сход Гуртка ня мог адбыцца.

Цікава зазначыць, што пры вобыску ў Гуртку сторажам былі заўважаны сярод паліцэйскіх і некалькі чалавек у шапках студэнтаў Унівэрсытэту.

### Валэйша выпушчаны.

Прэзэс рады старшыняў Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка С. Валэйша выпушчаны з Лукіскага вастрогу, дзе ён прабыў 48 гадзін.

### Здарэньне з кс. Станкевічам.

Гэтымі днямі ксёнд-беларус Адам Станкевіч быў у мясцовым аддзеле Польскай Краёвай Касы Пазычковай па грашовых справах Беларускай Гімназіі. Сярод натоўпу каля грашовай касы нехта распароў нажом раменны портфэль кс. Станкевіча, быўшы ў яго пад пахаю, але грошы ў портфэлі засталіся цэлымі.

### Бачыць арыштованых не ўдаецца.

Бачыцца з арыштованымі беларусамі нікому з знаёмых, а навет і сваякоў дасюль не ўдалося, бо гэта не пазваляецца.

### Прэса ў Сойме.

Згодна з паведамленьнем Прэсбюра Часовае Ўрадуючае Камісіі Сяр. Літвы, для беларускай прэсы вызначана месца ў Віл. Сойме ў другім радзе пад № 13.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Арышты літоўцаў.

Уночы з чацьвярга на пятніцу (19—20. I) арыштована шмат тутэйшых літоўцаў. „Głos Litwy“ падае гэткі сьпісак арыштованых: М. Біржышка, дырэктар літоўскай гімназіі імя Вітаўта Вялікага і палітычны дзеяч, Віктар Біржышка, вучыцель гімназіі, д-р Ф. Аўгустайціс, А. Рандаманскі, журналісты, Т. Шульц, інжэнер; Б. Стадзевіч, адміністратар „Głosu Litwy“ й „Vilnietisa“; П. Мічуліс, вураднік; Інсода, Мільлер, вучыцель, ксёндз кан. Кухта; М. Марцішаўская, рэдактарка „Vilniaus Garsas“ і Вайчунас, цырулік.

У прайшоўшую суботу ўвечары арыштованы яшчэ рэдактар тыднёвіка „Nasza Ziemia“—Грабоўскі, Ян Сямашка і Шпак.

Арышты адбываліся пасьля вобыскаў у шмат якіх памяшканьнях.

У панядзелак арыштованы й пасаджаны ў вастрог на Лукішках яшчэ адзін літовец—Мічунас.

### Зьмена прозьвішча.

Цікавы факт для характарыстыкі тутэйшага мяшчанства: Галоўны Камандзер войскаў Сярэдняе Літвы разрашыў Казімеры Аляксандравай, а таксама й дзецям яе Лявону й Алене Аляксандравым зьмяніць прозьвішча на Александровіч.

### Моцная прывычка.

Штодзенная дэмократычная газэта «Виленское Утро», пішучы ў хроніцы аб украінскім тэатры, заўсёды называе яго «малороссийским».

### Дэкрэт аб скліканьні Сойму.

24 гэтага студня Старшыня Часовае Ўрадуючае Камісіі Сярэдняе Літвы падпісаў дэкрэт гэткага зьместу: «Прадстаўнікоў насяленьня Віленскае Зямлі, выбраных на моцы дэкрэту Галоўнага Камандзера войскаў Сярэдняй Літвы № 419 й дэкрэту Старшыні Час. Урад. Камісіі № 421 склікаю да Вільні на 1-е лютага 1922 году на Сойм, як zgromadzenie дзеля выражэньня волі насяленьня».

# Пісьмо ў Рэдакцыю.

У газ. Kurjer Polski“ і іншых газэтах за 7 студня 1922 г. зьмешчана пад маім адрэсам гэткая фальшывая ведамасьць, паходзячая відавочна ад Аляксюка, якая даслоўна галосіць наступнае:

„Вільня. (A.W.) Беларускі дзеяч Дубейкоўскі заклаў варожы Польшчы „Саюз Абароны Бацькаўшчыны“, які працуе ў Ашмянскім павеце, ў гмінах Куцэвіцкай і Крэўскай,—супроць арганізацыі Аляксюка“.

Вось-жа, каб польскае грамадзянства не прыняло фальшывай ведамасьці за праўдзівую, заяўляю:

1) Ніколі ў жыцьці ня быў я ў мясцовасьцях, паказаных у цытованай дэпэшы.

2) Ніколі я не арганізоўваў ніякае арганізацыі супроць Аляксюка, бо гэта абніжала-б чалавечую вартасьць наагул, а кожнага з беларускіх дзеячоў паасобку. Быў час, калі палякі мелі сваіх Паскевічаў, сяньня дачакаліся беларусы Аляксюкоў.

Прымеце, пане Рэдактару, паважаньне

**Лявон Дубейкоўскі**
Старшыня Беларускага Камітэту ў Варшаве.

# Віленская біржа.

Офіцыяльна.

За 25 студня 1922 г.

| | Куплена. | Прадана. | |
|---|---|---|---|
| Даляры | 3435 | 3385 | п. м. |
| Фунты | 14300 | 14100 | „ |
| Нямецк. маркі | 17,10 | 16,90 | „ |
| Ост.-маркі | 17,10 | 16,90 | „ |
| 10 руб. золатам | 15450 | 15250 | „ |



**Вучыцялі й вучыцелькі!**

Працуючы ў вёсцы, Вы лёгка можаце сабраць вакольчныя беларускія народныя песьні і гэтым укладзеце новы скарб у наш друк, прыслаўшы сабранае ў „БЕЛАРУСКІ ЗВОН“.

Грамадзяне, спаўняйце сваю павіннасьць, запісуйцеся ў „Т-ва Беларускае Школы“!

Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна М.-Сьцяпанаўская, 23.

Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.